Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць два разы у тыдзень.**
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр.250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 3. Вільня, Пятніца, 22-га лютага 1924 г. Год I.

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Мамэнт пераломy.

У соймавай камісіі заграпічных спраў колькі дзён таму назад новы польскі міністар, гр. Замойскі, зрабіў справаздачу аб замежнай палітыцы Польшчы.

Справаздача гэтая мела чыста фармальны характар і нічога цікавага не прадстаўляе. Затое пасьля яе разьвіліся дужа цікавыя і характэрныя гутаркі паміж пасламі.

Сёньня мы затрымаемся на прамове пасла Домбскага, не чапаючы другіх, бо прамова гэная закранула бадай найважнейшае пытаньне сучаснае эўропэйскае палітыкі. Пасол Домбскі лічыць сучасны мамэнт *мамэнтам пералому*. З аднаго боку,—казаў ён,—ізноў пачынаюць іграць выдатную ролю ў афіцыяльнай палітыцы Эўропы Нямеччына і Расея. З другога боку, на першае месца ў гэтай палітыцы замест Францыі высоўваецца Англія. А ўсё гэта, разам узяўшы, пагражае Польшчы паважнай небясьпекай,—асабліва затым, што падыймаецца пытаньне аб перагляздзе міравых трактатаў, і ад гэтага Польшча можа цяжка пацярпець.

Прадстаўнік польскае дэмакратыі „ня меў духу“, каб сказаць выразна, у чым-жа імення небясьпека для Польшчы ад новага курсу ў агульнаэўрапэйскай палітыцы. Затое больш шчырымі аказаліся эндэкі: іх газэта „Kurjer Poznański“ ў нумары з 12 лютага зусім адкрыта кажа, што „ўваход у Лігу Нацыяў двух нашых суседзяў“ (Нямеччыны і СССР) „не астанецца бяз уплыву на справы, якія вынікаюць з правядзеньня ў жыцьцё вэрсальскага трактату, як, прыкладам, *справа аб палажэньні нацыянальных меншасьцяў*“...

Есьць такая расейская прыказка: „знает кошка, чьё сало с‘ела“. І заява эндэцкае газэты — гэта першае адкрытае прызнаньне польскае правіцы, што ў сваей унутранай палітыцы Польшча зламала тыя пастановы вэрсальскага трактату, якія забясьпечывалі правы нацыянальных меншасьцяў. Зламала яна і тыя забавязаньні, якія былі дадзены пры падпісаньні рыжскага міравога трактату з Расеяй адносна да ўшанаваньня правоў беларускага і украінскага насяленьня. Зламала, урэшце, і сваю ўласную канстытуцыю, якая гварантуе правы „інародцаў“, і на якую польскія дыпламаты з гордасьцяй паказуюць заграніцай, даводзячы, што ў Польшчы—„праўдзівы рай для нацыянальных меншасьцяў“....

Прызнаньне „Kur. Pozn.“ асабліва цэннае затым, што дагэтуль аб уціску „інародцаў“ крычалі ў Сойме толькі прадстаўнікі „меншасьцяў“ ды ад часу да часу падыймалі голас паслы з левых партыяў. Быў, праўда, прыпадак, калі галава ураду, ген. Сікорскі, публічна з Соймавае трыбуны прызнаў, што Польская дзяржава цяжка пакрыўдзіла беларусаў і украінцаў. Але наступнік яго, пан Вітас, у тым-жа Сойме высказываў „зьдзіўленьне“, чаго гэта „меншасьці“ жаляцца на уціск, калі ім у Польшчы жывецца, „як у раю“?!...

Дык вось, як „правіцоўцы“, эндэкі, так і дэмакраты польскія цяпер паважна занепакоены магчымасьцяй уваходу ў Лігу Нацыяў Нямеччыны і Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, бо тады *за зялёным сукном побач з польскімі прадстаўнікамі засядуць і заступнікі гэных пакрыўджаных „меншасьцяў“*: дэлегаты Нямеччыны — як заступнікі нямецкага насяленьня Польшчы, дэлегаты СССР—як заступнікі беларусаў і украінцаў, бо-ж як Беларусь, так і Украіна прадстаўляюць складовыя часткі Саюзу. І тады не памогуць ні вітасаўскія заявы аб „раю“ для „меншасьцяў“ у Польшчы, ні паказываньне на тое, якія пекныя прынцыпы *напісаны* ў польскай канстытуцыі....

Бязумоўна, прадстаўнікі СССР, значыць, і прадстаўнікі Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі, увайшоўшы ў склад Лігі Нацыяў, зажадаюць, каб правы беларусаў у Польшчы, забясьпечаныя вэрсальскім і рыжскім трактатамі, былі ўшанаваны. Ды гэтага мала: той-жа пасол Домбскі выразна намякае на магчымасьць падняцьця пытаньня і *аб усходніх граніцах Польшчы*, кажучы, што „Саюз з Францыяй забясьпечывае нашыя заходнія граніцы, але ня ўсходнія“, і заклікаючы ўрад да актыўнае заграпічнае палітыкі, якая ўсьцерагла-б Польшчу ад усіх небясьпек.

Мы думаем, што найлепшым забясьпечаньнем Польшчы ад розных неспадзяванак у адносінах з суседзямі было-бы *лаяльнае і бяз ніякіх агаворак выпаўненьне сваіх забавязаньняў у адносінах да „нацыянальных меншасьцяў“*. Баламучаньне заграпічнае апініі пры помачы розных Ладновых, што ад імя няістнуючага „Беларускага Камітэту ў Польшчы“ заяўляюць аб „поўным здаваленьні беларусаў польскаю ўладаю“, нічога тут не паможа. Не памогуць і авантурныя пляны пана Пілсудскага, які мосьціцца на кіраўнічае становішча ў польскай арміі дзеля правядзеньня ў жыцьцё гэных плянаў...

„Мамэнт пералому“ ў агульна-эўрапэйскай палітыцы, аб якім казаў пасол Домбскі, бязспрэчна будзе *мамэнтам пералому і ў жыцьці беларускага насяленьня*, якое апынулася пад уладай Польшчы.

## Неумалімыя факты.

Можа дзе-каму аднабокасьцяй часамі здаюцца карэспандэнцыі з нашых вёсак аб тым, як тэрорызуе польская адміністрацыя вясковае беларускае насяленьне на гэтак, званых, „Крэсах Всходніх“. Можа хто ня верыць у аб‘ектыўнасьць нашых карэспандэнтаў?

Наадварот — ня толькі ніякага згушчаньньня хварбаў у іхніх допісах да нас няма, а нават факты, аб якіх яны паведамляюць, зусім выглядаюць цьмянымі ў параўнаньні з іншага гатунку фактамі, якія на гэты раз, дзеля саўсім простае ілюстрацыі правінцыяльнага нашага жыцьця, чэрпаем з крыніцы афіцыяльнага характару і, мусім падкрэсьліць з крыніцы.... *польскае*.

З вышэйсказанымі фактамі ў руках пастараемся, нічога, пакуль што, ня кажучы, паказаць, як катуецца нашая вёска прадстаўнікамі адміністрацыйнае ўлады.

Афіцыяльнасьць узятага намі матар‘ялу гаворыць сама за сябе, бо перад намі нішто іншае як „Wniosek posła A. Kordowskiego i tow. z klubu P.S.L. „Wyzwolenie“ w sprawie masowego znęcania się funkcjonarjuszów policji państrowej na Kresach Wschodnich“...

„Внёсэк“ гэты за 1 лістапада 1923 году найлепей сьведчыць, што справа да таго ўжо даходзіць, што нават патрыятычна-польская народная партыя *ня можа маўчаць* аб тым, што далятае да яе слыху.

Перайдзём да справы і дамо слова аўтарам „внёску“, карыстаючы апісанымі ў ім фактамі:

—„Уночы з 25 на 26 жніўня бягучага (*1923—Рэд.*) году, банда азброеных людзей у ліку нібыто 50 асобаў, часткаю папераапрананых у мундзеры дзяржаўнае паліцыі, напала на асаду Тэляханы, Косаўскага пав. на Палесьсі. Пасьля стэрорызаваньня 2 прысутных на пасту паліцыянтаў і справаджаньні на пост войта Тэляханскай воласьці, аграблена некалькі крамаў і кватэраў цывільнага насяленьня, нарэшце, растраляўшы арыштаваных 2 паліцыянтаў, валаснога войта, жыхара. Тэляханаў купца-жыда і жыхарку Тэляханаў жыдоўку ў яе ўласнай кватэры — пасьля 6-гадзіннага бязкарнага паляндраваньня, банда пакінула асаду“..

Так кажа афіцыяльны запрос у Сойме пасла *польскай* партыі Кардоўскага й яго таварышоў у прэлюдыі да таго, што дзеялася пасьля бандыцкага нападу. Матар‘ял гэтак завялікі, што адбіцьцё ўсяго яго заняла-б надта шмат месца на шпальтах нашае часопісі. А дзеля гэтага падамо факты з большага, як яны ёсьць, трымаючыся строга афіцыяльнае мовы польскага запросу й верачы, што польская, хаця й народная, партыя хіба што нічога перасаліць не старалася.

А вось, што пачалося адразу пасьля „бязкарнага“ бандыцкага нападу:

—„Разасланыя да ваколічных вёсак аддзелы паліцыі сваім павядзеньнем зрабілі на мясцовае насяленьне ўражаньне новых бандыцкіх нападаў, бо пераапраненыя ў адзежу жыдоў, купцоў і сялян—загрымаваныя паліцыянты—запраўды ўчынілі цэлы рад дзеяньняў, што прасьледуюцца карным кодэксам.

Недалёчка ад самае вёскі Тэляханаў прынялі іншую сыстэму сьледзтва, а ласьне: рабілі масавыя вобыскі бяз сьведкаў, арыштоўвалі па некалькі асобаў зараз, білі на месцы і адвозілі на пост у Тэляханах, дзе паддавалі іх катаваньням, што напамінаюць сярэднявечныя інквізыцыі, не зьвяртаючы ўвагі, а ні на век, а ні на пол... Білі бяз ніякіх прызнакаў праступленьня з боку катаваных асобаў, так толькі, абы біць—„а ну-ж што скажа“, а, нарэшце дзеля таго, каб адымсьціць сьмерць забітых паліцыянтаў, як, паміж іншым, заявіў гэта падпісанаму паслу Кардоўскаму старшы пшодовнік № 4 ў дзень 7. Х. в.,—(1923)г..

*У вёсцы Рэчкі*, Тэляханскай воласьці, Косаўскага пав. Пётра Станіславаў Кот, 60 гадоў — 5.IX. назначаны солтысам на фурманку, каб завязьці арыштаваных суседзяў да Тэляхан, затрыманы на пасту ў Тэляханах, спаў на возе; каля гадзіны 9 увечары ўстаў, каб зьняць коням торбу з аброкам і даць ім сена. Калі рабіў гэта, дык падыйшоў да яго тайны паліцыянт і са словамі: „Чаму ня сьпіш с...“ ударыў яго тупою прыладаю (ложаю рэвольвэра) ў левую часьць галавы. Ранены Кот упаў бяз прытомнасьці пад воз. Залітага крывёю, няпрытомнагаКата два абмундзераваныя паліцыянты занясьлі ў памяшканьне паліцыі. Абмылі яму галаву гарэлкаю, залівалі ею рану на галаве. Абмылі ганучаю, напаілі Ката вадою, змылі кроў з каўняра сьвіткі, затым, калі прыйшоў да прытомнасьці, выдалі яму звальненьне. Вышэйпаказаны факт сьведчыць, што на пасту ў Тэляханах зьдзекаваліся над арыштованым ня толькі пасьля, але й перад бандыцкім нападам.

*Васіль Рыгораў Мялік 25 гадоў*, арыштаваны 6.IX, біты ў той самы дзень а 2 гадзіне папалудні ў пакоіку камэнданта. Экзэкуцыю рабілі—„малы“, „палітычны“ й паліцыянт 64 (далейшае цыфры не памятае). „Малы“, пытаючыся: „Винтовки есть“, загадаў яму распранацца; калі Мялік зьняў каптан, дык „малы“ ахінуў яму ім галаву й пакаціў на зямлю, — пасьля чаго пасьцягваў з яго рэшту адзежы, распранаючы нагола, пры чым падраў яму порткі, нарэшце сеў яму на галаву, а паліцыянт 64 на ногі, і гэткім спосабам білі яго кіямі і спражкамі, пасьля падскаквалі ў яго на плячох, нарэшце, паўжывога „малы“ біў кулакамі па твары і голага штурханцамі выкінулі за дзьверы...

*Язэп Данілаў Шлячка*, 62 гад. Перабілі яму руку ў локці. Заяўляючы, нарэшце: „Будзем вас гэтак доўга біць і прасьледаваць, аж усе зробіцеся бандытамі“—выпусьцілі яго са школы, зьмененай на катавальню.

*Вёска Краі*, Тэлях. вол. Зінові Антонаў Канановіч... арыштаваны 28.VIII. на дарозе з Тэляханаў да вёскі Кроеў—білі яго тры разы. 30. VIII акруцілі яму галаву коўдраю, а рот запакавалі. Палажыўшы на плечы дошку, білі па дошцы малатком або гіраю, штурхалі яго й білі паленамі, а калі абамлеў—выкінулі яго ў стайню. Бачачы, што доўга не зьвяртаецца да прытомнасьці, паклікалі мясцовага фэльчара Багдановіча, які не хацеў аглядаць хворага па гнаі ў стайні—і да стайні ўвайсьці не хацеў, ці проста баяўся—тады сказалі яму, што гэта захварэў паліцыянт. Калі, нарэшце, Канановіча вынесьлі, Багдановіч зьвярнуўся да паліцыянтаў са словамі: „Panowie, panowie, co wy na Rany Boskie robicie“. — Багдановіч

Перамянілі праз год праўленьне, а новае праўленьне й давай рабіць усё пасвойму, ня пытаючыся грамадзян ні аб чым. Нават прадаўшчыка, выбранага на агульным сходзе, праўленцы не дапусьцілі ў краму, а паставілі старога. Бадай ані разу ня склікалі й агульнага сабраньня. Ну й зьвялі дудкі на сапёлкі. Цяпер ня маем ужо сваей крамы. Зачынілі яе, нікога не пытаючыся. Няведама, дзе падзеліся тавары, дзе падзеліся грошы. Хоцьбы склікалі агульны сход пайшчыкаў ды растлумачылі-б, як гэта сталася, а то й гэтага няма. А мы маўчым, бо нічога лепшага й ня выдумаем.

А ці бывае калі ў нас фэст, ці вясельле, ці йгрышча якое, каб не пабіліся? Дужа рэдка. На большых гледзючы, й дзеці растуць такімі, каб, вырасшы, спраўдзіць прыгаворку аб ікажэнскай паважнасьці. Хлапцы па гадоў 12 ужо паляць табаку, нават п'юць гарэлку. Адны бацькі бьюць, праклінаюць дзяцей, іншыя пасьмейваюцца. А прайдзі толькі вечарам, асабліва ў сьвята, па вуліцы, начуешся крыку, гоману, а калі незнаёмы, дык й штурханіны набярэшся. А словаў брыдкіх дык болей ведаюць й ужываюць за бацькоў.

Люднасьць у нас бедная. Зямлі столькі, што гаспадару й сесьці на сваёй зямлі няма як. Пагражае ў будучыні чыстае прапасьцё. Трэба шукаць спосабаў, каб як забясьпечыць будучыню для дзяцей. Калі нам некуды дзявацца, што-ж будуць рабіць нашыя наступнікі? Вось трэба-ж іх вучыць чаму-небудзь добраму й карыснаму ў жыцьці, а не гарэлку піць і табаку паліць. Гэтак многа ў нас людзей, а ў цэлым мястэчку ёсьць толькі тры шаўца, ды два абы якіх краўца. А абслугоўваюць яны ваколіцу ў вёрст 15. Значыць, многа каму працы знайшлося-б. А ці знойдзеце вы ў нас хоць аднаго калясьніка, рымара, гаршкаля, шкляра, бондара? Ды й ці мала ёсьць рамёслаў, каторыя маглі-б ня толькі памагчы чалавеку, але й пракарміць яго. Навучы чаму-небудзь дзяцёнка: няхай ён умее аўчынкі вырабляць, рабіць шчоткі, бёрды, усё, што купляецца для гаспадаркі на кірмашы, няхай гэта ўсё вырабляецца вамі самімі. Вы ўбачыце, што вашы дзеці ня будуць праклінаць бацькоў, што вы іх на сьвет пусьцілі.

**Андрэй Лашчэўскі.**

**М. Язна**, Дзісьненскага пав.

Чуць ня кожны дзень прыносяць да мяне паперкі, каб плаціць у гміну тыя ці іншыя падаткі, так што і сягоньня я ня зьдзівіўся, калі да мяне прышоў солтыс і даў „наказ“. Толькі заварохаўся па кішанях, каб дастаць грошы, аж солтыс і кажа, што прышоў не за грашыма, а за чым іншым. Чытаю. Наказ на дабравольную ссыпку на „ахронку“ ў Дзісьне і ў Глыбокім, згодна з якой-сь то пастановай гміннай рады з дня 27/X-23 г. Патрабуюць бульбу, капусту і буракі. Бурак павінен важыць ня менш аднаго фунта. На наказе пастаўлена пячатка гміны і падпісаў войт п. Сьпірыдовіч. Я спачатку зьдзівіўся гэтаму новаму падатку, але, прачытаўшы слова „дабравольна“, надумаў, што гэта мяне ня тычыцца, бо я, як беларус, лічу за свой грамадзянскі абавязак падтрымаць беларускі дзіцячы прытулак у Вільні, у якім дзеці жывуць толькі на нашых крошках, а дапамогаў ад ураду ня маюць. Гэтыя-ж польскія ахронкі, якія адчынілі нашы паны, атрымліваюць дапамогу ад ураду, а галоўнае, павінны былі-б утрымлівацца тымі, хто іх адчыніў, г. з. панамі, а не класьці новы цяжар на нашу мужыцкую шыю.

Выходзячы з гэтага, я і папробаваў адмовіцца, але солтыс на гэта сказаў, што „дабравольна“ напісана так сабе, але заплаціць усё-ж такі „мусіш“, бо хто не заплаціць, таго войт гміны зжывець са сьвету. Ведаючы добра натуру нашага „прыяцеля“ войта Сьпірыдовіча, я хутчэй паслаў жонку за усім, што трэбавалася ў гэтым праклятым наказе і рад быў скарэй пазбыцца і солтыса, і „наказа“, і нават сваей працы—бульбы, капусты і буракоў. Вось і жыві на сьвеце! Апрача абавязковых падаткаў, нашы панскія гмінныя рады і прысланныя невядома скуль войты накладаюць яшчэ і „дабравольныя“ падаткі, якія сьцягіваюць яшчэ больш энэргічна, чым паньствовыя. К гэтаму мушу дабавіць, што сабраныя прадукты былі звалены ў гміне, і, як кажуць людзі, памёрзлі. Вось і вышла ў нашага пана войта Сьпірыдовіча так, што „і сам ні гам і другому ні дам“.

**Селянін.**

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

**У Цэнтральным Доме Селяніна.** У лютым Народны Камісарыят Земляробства мае распачаць у Доме Селяніна сыстэматычнае выкладаньне лекцыяў па пытаньнях сел. гаспадаркі для чырвонаармейцаў, школьных працаўнікоў і сялян.

Цяпер там тэрмінова праводзіцца праца па скончэньні рамонта памешканьня і абсталяваньні музэя.

**С.-Г. каапэрацыя рыхтуецца да пашырэньня межаў Б.С.С.Р.** Прадстаўнікі Гомельскага Губсаюзу вядуць перамаўленьні з Белсельпромсаюзам аб аб'яднаньні сваей працы.

У лютым у Менску адбудзецца аб'яднаная нарада Белсельпромсаюзу і Губсаюзаў с.-г. каапэрацыі Вітабскай і Гомельскай губэрняў, на якой будзе разгледжана пытаньне аб аб'яднаньні працы с.-г. каапэрацыі на тэрыторыі ўсяе пашыранай Б.С.С.Р.

**Агранамічныя курсы для сялян.** Народны Камісарыят Земляробства апрацаваў плян працы па распаўсюджаньні с.-г. ведаў сярод сялян.

Згодна з плянам, у бліжэйшым часе па ўсіх паветах маюць быць праведзены кароткатэрміновыя с.-г. курсы, на якіх будуць выкладаць лекцыі агранамічныя сілы павятовых зямельных аддзелаў і агранамічных пунктаў.

Па вестках з Мазырскага павету, там маюць быць адчынены курсы ў 4-х мясцох.

### Аб становішчы вясковай кабеты.

(Кнорынская вол.).

На апошняй валасной канфэрэнцыі сельскіх рад і ўсіх валасных арганізацыя ў быў заслухан даклад аб „Кабеце і Савецкай уладзе“. Выказалася некалькі сяброў: Стром, Івашка, Аканчук. Прамоўцы расказалі аб тых правох, якія дадзены расейскай кабеце пасьля Акцябрскай рэвалюцыі і аб палажэньні кабеты заграніцаю. Але, ня гледзячы на сваю роўнасьць з мужчынаю, у нас вясковая кабета яшчэ не карыстаецца як мае быць, сваімі палітычнымі правамі. Прычыны: шмат працы, якую нясе наша вясковая кабета, яе цемната і стары пагляд, па якому кабета ў вясковай сям'і ўсё яшчэ лічыцца ніжэй гаспадара і ва ўсім яму падчыняецца.

Вясковыя мужчыны вельмі ўважна аднесьліся да гэтых слоў і зазначылі, што вясковая кабета зьяўляецца цяпер адстаўшаю не па сваей віне, а па віне папярэдніх парадкаў, калі вясковай кабеце нельга было вучыцца і разьвівацца. Каб уцягнуць вясковую кабету ў грамадзянскія інтарэсы і працу, пастаноўлена абавязкова выбіраць кабет у каапэратывы і камітэты ўзаемадапамогі, разам з тым ня менш двух разоў на месяцы склікаць жаночыя канфэрэнцыі. Урэшце зазначана, каб мясцовая ўлада глядзела за тым, каб у вячэрніх школах (дзе тыя ёсьць), вучыліся грамаце вясковыя дзяўчаты і кабеты.

Усе гэтыя меры надта карысныя і лёгка споўнімыя. Служачы прыкладам дзеля другіх валасьцёў, яны разам з тым сьведчаць, што вясковы мужчына пад уплывам новых думак пачынае зьмяняць свой пагляд на кабету. А гэта ёсьць першы крок к новаму раўнапраўнаму становішчу вясковай кабеты.

**Шатэрнік.**

# Увага!

Адміністрацыя „**Голаса Беларуса**“ даводзіць да ведама, што падпішчыкі, якія прышлюць падпісную плату за **ўвесь год** не пазьней **1-га красавіка** г. г., атрымаюць **бязплатна** дадатак — альманах „**ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ**“.

# Дописы.

## Беларусы у Амэрыцы.

(Ад уласнага карэспандэнта).

### Прывітаньні.

Амэрыканскія беларусы атрымалі прывітаньні з прычыны адраджэньня беларусаў у Новым Сьвеце і самаарганізацыі на карысьць Бацькаўшчыны ад: вядомага дацкага пісьменьніка і тлумача з беларускага А. М. Бэнэдыктсэна (з Капэнгагі), ад беларусаў у Рыме—у асобе Антона Шышкі, ад беларусаў у Югаславіі—у асобе М. Запольскага, ад беларусау у Александрыі (з Эгіпту) і інш.

# Пісьмы у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Не адмоўце зьмясьціць на шпальтах Вашай паважанай газэты ніжэйшае:

Лічу патрэбным давесьці да агульнага ведама, што зьмешчаны ў 8 (29) нумары газэты „Змаганьне“ за 24/I 1924 г. артыкул „Парыжскія гастролі п. Ладнова“, падпісаны падобным да майго прозьвішча — „К—віч“,—нічога супольнага з маім пяром ня мае. Вільня 12/II 1924 г.

Са шчырай пашанай **М. Косьцевіч.**

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цантр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

**Дырэкцыя Беларускае Драматычнае Майстроўні**

зварачываецца да ўсяго грамадзянства з уклоннай просьбай прыслаць ёй, ці паведаміць, дзе можна знайсьці вось якія п'есы:

1) беларускі пераклад „**На дне**“, М. Горкага (перакл. М. Краўцоў).

2) „**Эрос і Псыха**“, Жулаўскага — беларускі пераклад Янкі Купалы.

3) „**Дачка Ёрыо**“, пастырская трагэдыя Д'Аннунціо — у польскім, ці расейскім перакладзе.

**Адказы прысылаць на рэдакцыю „Голаса Беларуса“.**

**ПРАДАЕЦЦА** 1 дзесяціна глінistай зямлі, — прыгоднай да вырабу ЦЭГЛЫ і 1 дзес. сенажаці. Даведацца ў Тамаша Каўша, ст. Ганцавічы, вёска Агарэвічы, Лунінецкага павету.

## Беларуская Драматычная Майстроуня.

**У Нядзелю, 24 лютага 1924 году )——( у залі Майстроўні (Вострабрамская № 9).**

# СЭРЫЯ ПАПУЛЯРНЫХ ЛЕКЦЫЯЎ.

**Лекцыя другая: „АБ БЕЛАРУСКІМ ТЭАТРЫ“, Франц. Аляхновіча.**

ПАСЬЛЯ ЛЕКЦЫІ: 1) **Канцэртны адзел.** 2) **СКОКІ.**

Дзеля захаваньня парадку ды цішы ўваход у залю пасьля 3-га сыгналу **забаронены.**

Пачатак а 7 гадзіне увечары.

Дырэкцыя Майстроўні даводзіць да агульнага ведама, што, згодна з пастановай Таварыства, **пачатак пунктуальна ў вызначаны час** незалежна ад колькасьці прысутных.

Уваход—для сяброў Таварыства вольны. Госьці ўваходзяць па рэкамендацыі сяброў Таварыства. А для асобаў, атрымаўшых асабістыя запросіны, рэкамендацыі не вымагаюцца. Вучням Віленск. Беларускае Гімназіі білеты прадаюцца па паказаньні імі вучнёўскіх легітымацыяў.

**Бягучая праца ў Майстроўні**: 1) „На папасе“, Я. Купалы; 2) „У зімовы вечар“, Ажэшкі; 3) Новыя дэкарацыі—хата, лагчына ля гасьцінцу.

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня Левін і Сын. Вільня, Нямецкая 22.